Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА



# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

20 КАСТРЫЧНІКА 1928 г.

№ 12 (55)

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1928

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР


20 КАСТРЫЧНІКА 1928 г.

**№ 12 (55)**

IV-ты год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР

МЕНСК—1928

# ЗЬМЕСТ

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

### пра збор раённымі выканаўчымі камітэтамі страхавых плацяжоў па абавязковым сельскім акладным страхаваньні ў БССР.

На падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 22 сьнежня 1927 г. (З. З. БССР 1928 г., № 6, арт. 36, п. 78) Эканамічная Нарада пры Савеце Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Збор акладу і спагнаньне нядоімкі страхавых плацяжоў па абавязковым сельскім акладным страхаваньні ўскласьці на раённыя выканаўчыя камітэты, якія адказваюць за сваечасовы і поўны збор плацяжоў, а таксама за цэласьць і захаванасьць сабраных страхавых сум.

2. Страхавыя плацяжы ад страхавальнікаў прымаюцца касамі раённых выканаўчых камітэтаў і сельскімі саветамі, на падставе складзеных страхавымі агэнцтвамі акладных лістоў і іменных сьпісаў, паводле інструкцыі, якая выдаецца Народным Камісарыятам Фінансаў БССР.

3. На выдаткі на збор страхавых плацяжоў раённыя выканаўчыя камітэты ўтрымоўваюць 3 проц. ад фактычна паступіўшых сум акладу і нядоімкі страхавых плацяжоў.

4. З часу выданьня гэтай пастановы касуецца пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 7 верасьня 1928 г. (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г., № 15 (40) арт. 1).

Старшыня Эканамічнай Нарады пры Савеце
Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных
Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР **В. Крывіцкі.**

31 жніўня 1928 г.

---

## 2. Інструкцыя Народных Камісарыятаў Фінансаў і Унутраных Спраў БССР

### пра спагнаньне прапісачнага збору ў гарадох і мястэчках БССР.

#### I. Агульная частка.

1. Прапісачны збор у гарадох і мястэчках бярэцца органамі міліцыі за прапіску і выпіску дакумэнтаў, якія сьведчаць асобу.

2. Гэты збор бярэцца з асоб і ў разьмерах, устаноўленных „Палажэньнем пра мясцовыя фінансы БССР“.

3. Апроч прапісачнага збору, дазваляецца браць загатоўчы кошт прапісачных картак, аднак ня больш сапраўднага іх кошту.

4. Прапісачны збор апраўдваецца спэцыяльнымі, выпушчанымі для гэтага, маркамі.

5. Паводле гэтай інструкцыі акруговыя фінансавыя аддзелы разам з адміністрацыйнымі аддзеламі акруговых выканаўчых камітэтаў устанаўляюць адпаведнаю пратакольнаю пастановаю:

а) пералік установаў міліцыі ва ўсёй акрузе, дзе бярэцца прапісачны збор;

б) разьмер авансу марак прапісачнага збору, якія адпушчаюцца для гэтых установаў міліцыі (асобна для кожнай установы);

в) тэрмін здачы органамі міліцыі ў належныя касавыя установы Народнага Камісарыяту Фінансаў ці раёнага выканаўчага камітэту грошай за праданыя гэтыя маркі;

г) падрабязны парадак атрыманьня органамі міліцыі авансу марак, здачы грошай за іх у належныя касавыя ўстановы і падліку марак і грошай у органах міліцыі;

д) хто адказвае за цэласьць авансу марак у органах міліцыі.

## II. Парадак платы прапісачнага збору.

6. Прапісачны збор бярэцца ў мясцох прапіскі (адрэсна-явачных сталох), у момант запісу. Каб устанавіць па якой стаўцы з грамадзяніна, што прапісваецца, павінен быць узяты прапісачны збор, службовая асоба органу міліцыі, якая вядзе запіс, павінна ўпэўніцца ў сацыяльным становішчы грамадзяніна, што прапісваецца, аб чым адзначае ў прапісачнай картцы. Калі ўстанавіць сацыяльнае становішча такога грамадзяніна немагчыма, то збор бярэцца па найвышэйшай стаўцы.

7. На другой старонцы прапісачнай карткі на суму ўзятага збору наклейваюцца маркі, а ў дамавой кнізе робіцца адзнака рукой ці штампам: „Узята прапісачнага збору . . . . р. . . . к.“ і падпісваецца службоваю асобаю міліцыі.

8. Калі паводле існуючых правіл прапісачны збор не бярэцца, то на прапісачнай картцы і ў дамавой кнізе робіцца наступная адзнака таксама рукой ці штампам: „Прапісачны збор не бярэцца“ і падпісваецца службоваю асобаю.

9. Наклеяныя на прапісачнай картцы маркі зараз-жа касуюцца службоваю асобаю міліцыі штампам ці рукою (у апошнім выпадку праз марку падпісваецца асоба, якая касуе марку). Маркі павінна касавацца такім чынам, каб частка штампу ці подпісу знаходзілася на прапісачнай картцы.

10. Маркі прапісачнага збору прадаюцца грамадзянам за гатоўку, але на рукі ім ня выдаюцца, а наклейваюцца на прапісачнай картцы непасрэдна службоваю асобаю міліцыі, як паказана вышэй.

## III. Парадак забясьпечаньня маркамі прапісачнага збору і парадак здачы грошай у касавыя ўстановы Народнага Камісарыяту Фінансаў ці раённага выканаўчага камітэту.

11. Маркі прапісачнага збору органы міліцыі атрымоўваюць у наступных установах: у акруговых гарадох—з кас ці скарбовых частак Народнага Камісарыяту Фінансаў, а ў іншых мясцовасьцях—з кас раённых выканаўчых камітэтаў ці скарбовых частак Народнага Камісарыяту Фінансаў.

12. Гэтыя маркі органам міліцыі выдаюцца сталым авансам, разьмер якога для кожнага органу міліцыі асобна вызначаецца акруговымі фінансавымі аддзеламі разам з адміністрацыйнымі аддзеламі акруговых выканаўчых камітэтаў (арт. 5). Аднак разьмер гэтага авансу не павінен перавышаць аднамесячнай патрэбы кожнага месца прапіскі асобна.

**IV. Парадак здачы грошай прапісачнага збору ў скарбовыя часткі ці касы Народнага Камісарыяту Фінансаў і раённых выканаўчых камітэтаў.**

13. Атрыманыя грошы прапісачнага збору органы міліцыі не радзей аднаго разу ў тыдзень (дакладныя тэрміны ўстанаўляюцца акруговымі фінансавымі адзеламі разам з адміністрацыйнымі аддзеламі акруговых выканаўчых камітэтаў) здаюць у належныя касавыя ўстановы Народнага Камісарыяту Фінансаў і раённых выканаўчых камітэтаў. Замест здадзеных грошай касавыя ўстановы выдаюць на роўную суму новыя маркі.

*Увага.* Калі ў момант здачы грошай у касе няма марак, то гэтыя касы павінны выдаваць квіткі, якія пасьля абменіваюцца на маркі.

**V. Адказнасьць за цэласьць марак і грошай.**

14. Маркі і грошы ў органах міліцыі захоўваюцца за адказнасьцю службовых асоб міліцыі па паказаньні адміністрацыйнага аддзелу акругавага выканаўчага камітэту.

15. За маркі, папсаваныя з прычыны недбалых да іх адносін, з асоб, якія ў гэтым вінаваты, спаганяецца загатоўчы кошт гэтых марак, калі на працягу аднаго месяцу папсавана ад аднаго аркушу (80 шт.) і болей.

**VI. Падлік і справаздачнасьць.**

16. У канцы аперацыйнага дня ўсе апярацыі па прапісцы запісваюцца ў справаздачную ведамасьць, якая заводзіцца на цэлы месяц. У гэтай ведамасьці запісваюцца штодзень наступныя зьвесткі: колькасьць прапісак і выпісак (асобна для кожнай групы паводле ставак атрыманага збору), агульная сума атрыманага збору. У апошняй графе гэтай справаздачнай ведамасьці падпісваецца начальнік часткі міліцыі альбо начальнік аб'яднаньня міліцыі для пацьверджаньня правільнасьці паказаных зьвестак.

*Увага.* У гэтую ведамасьць могуць уключацца і іншыя зьвесткі па прапісцы, патрэбныя для органаў міліцыі.

17. Калі скончыцца месяц, то робіцца падрахунак ва ўсіх графах гэтай ведамасьці і падпісваецца начальнікам часткі міліцыі альбо начальнікам аб'яднаньня міліцыі і асобаю, што робіць прапіску. Справаздачная ведамасьць складаецца ў адным экзэмпляры і захоўваецца на месцы ў органах міліцыі. Гэтая ведамасьць служыць для кантролю і павінна паказвацца пры рэвізыях.

18. Для падлічваньня прапісачных марак, ва ўстановах міліцыі заводзіцца сшытак, у якім запісваюцца наступныя зьвесткі:

а) сума ўстаноўленага авансу, б) сума высланых ці здадзеных у належную касавую ўстанову Народнага Камісарыяту Фінансаў ці раённых выканаўчых камітэтаў грошай збору ад прададзеных марак.

*Увага 1.* Сума ўстаноўленага авансу запісваецца адзін раз, калі атрымоўваецца першапачатковы аванс, а пасьля запісваецца толькі тады, калі зьмяняецца разьмер авансу.

*Увага 2.* Сшытак павінен быць пранумараваны, прашнураваны, прапячатаны і падпісаны акругавым фінансавым аддзелам ці раённым выканаўчым камітэтам.

19. На папсаваныя ў органах міліцыі маркі прапісачнага збору па меры іх назьбіраньня, але не радзей, як адзін раз у паўгода складаецца акт у 2-х экз. і падпісваецца начальнікам міліцыі і двума іншымі службовымі асобамі міліцыі ці выканаўчага камітэту. У акце павінна быць адзначана, пры якіх умовах маркі былі папсаваны. Адзін экз. акту разам з папсаванымі маркамі пасылаецца ў належную касавую ўстанову Народнага Камісарыяту Фінансаў ці раённага выканаўчага камітэту для замены папсаваных марак на новыя.

20. Органы міліцыі на маркі прапісачнага збору ніякага падліку і справаздачнасьці, апроч памянёных вышэй, не вядуць.

**VII. Нагляд за правільнасьцю браньня прапісачнага збору.**

21. Акруговыя фінансавыя аддзелы у акруговых гарадох і раённыя выканаўчыя камітэты ў іншых гарадох для праверкі правільнасьці браньня прапісачнага збору, своечасовасьці здачы ў належныя касы і скарбовыя часткі атрыманых грошай прапісачнага збору і наяўнасьці авансаў марак робяць на мясцох у органах міліцыі пэрыядычныя рэвізіі.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

6 верасьня 1928 г.

---

Узгоднена з ІГБЭ НК РСІ 6-IX 1928 г.

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

**пра парадак ужываньня інструкцыі аб рахункаводзтве і справаздачнасьці раённых фінансавых частак у наступным бюдж. годзе.**

*Усім акруговым фінансавым аддзелам.*

У выніку перагляду выдадзенай у 1927 г. інструкцыі аб рахункаводзтве і справаздачнасьці раённых выканаўчых камітэтаў, грунтуючыся на матар'ялах абсьледваньня шэрагу раённых фінансавых частак, а таксама ў зьвязку з некаторымі зьменамі заканадаўчага парадку, Народны Камісарыят Фінансаў БССР прапануе Вам, пры ўжываньні памянёнай інструкцыі раённымі фінансавымі часткамі ў наступным годзе, выконваць наступнае:

1. На падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 22 жніўня 1928 г. аб касавым выкананьні дзяржаўнага бюджэту і мясцовых бюджэтаў, раённыя фінансавыя часткі павінны штодзень здаваць усе атрыманыя імі сумы ў дзяржаўны бюджэт, а таксама і ў мясцовыя бюджэты на бягучыя рахункі ў агэнцтвы Дзяржаўнага Банку, а там, дзе апошніх няма—у касы ашчаднасьці.

Пры гэтым, сродкі дзяржаўнага бюджэту перадаюцца ў агэнцтвы Дзяржаўнага Банку ці дзяржаўную касу ашчаднасьці для перасылкі ва ўстанову Дзяржаўнага Банку ў акруговым горадзе, а сродкі мясцовых бюджэтаў—для залічэньня на месцы на процантавыя бягучыя рахункі кожнага паасобнага бюджэту, гэта значыць: раённага, мястэчковага, бюджэту неакруговага гораду.

Ніякіх выдач з сродкаў дзяржаўнага бюджэту, перададзеных у агэнцтвы Дзяржаўнага Банку ці касу ашчаднасьці, не дазваляецца. Калі за які-небудзь дзень раённая каса перадасьць у касу ашчаднасьці большую чымся фактычна павінна быць пераслана ва ўстанову Дзяржаўнага Банку акруговага гораду, то ў такіх выпадках робіцца належная папраўка пры наступных уносах сродкаў дзяржаўнага бюджэту. Сродкі мясцовых бюджэтаў выдаткоўваюцца раённымі фінансавымі часткамі толькі паводле чэкаў на крэдытную ўстанову, у якой захоўваюцца сродкі данага бюджэту, гэта значыць на ўстанову Дзяржаўнага Банку ці на касу ашчаднасьці.

У асабліва выключных выпадках, калі гадзіны працы раённай фінансавай часткі ня супадаюць з гадзінамі працы касы ашчаднасьці, то загадчык раённай фінансавай часткі мае права атрымаць паводле чэку на свае імя з бягучага рахунку ў касе ашчаднасьці аванс у разьмеры, патрэбным на неадкладныя выдаткі. Атрыманыя, такім чынам, авансы абавязкова запісваюцца на прыход у касавай кнізе раённай фінансавай часткі. У сувязі з гэтым зьмяняецца пункт 3 інструкцыі ў тым кірунку, што касы раённых фінансавых частак, там дзе яны ёсьць, прымаюць толькі даходы раённага і ніжэйшых за яго бюджэтаў, а захаваньне гэтых сродкаў канцэнтруецца ў крэдытных установах, праз якія і праходзіць выдаткаваньне сродкаў. Выдаткаваньне сродкаў мясцовых бюджэтаў праз касу ашчаднасьці або агэнцтвы Дзяржаўнага Банку робіцца паводле звычайных чэкаў, устаноўленых адпаведнаю крэдытнаю ўстановаю, з яе бягучага рахунку, але ў кожным разе, ня гледзячы на тое, што грошы будуць выдавацца крэдытору з бягучага рахунку мясцовага бюджэту ў крэдытнай установе ці непасрэдна з касы раённай фінансавай часткі, загадзя складаецца ўстаноўлены п. 12 Інструкцыі пісьмова загад (расходны ордэр) на сьпісаньне крэдытаў (Форма ордэра да гэтага абежніка дадаецца). Расходны ордэр павінен быць падпісаны распарадчыкам крэдытаў і бухгальтэрам. Калі замест грошай крэдытору будзе выдадзен чэк на крэдытную ўстанову, то ў расходным ордэры на пэўным месцы ён робіць расьпіску наступнага зьместу: „Атрымаў чэк № 000 на сто трыццаць дзевяць руб. 34 к. 4-га кастрычніка 1928 г.“

2. Азнаямленьне з існуючым зараз парадкам складаньня раённымі фінансавымі часткамі чэкаў—ордэроў выявіла, што раённыя фінансавыя часткі патрабуюць ад атрымальніка грошай, каб яны абавязкова падавалі пісьмовыя заявы на выдачу грошай, і поруч з гэтым складаюць на ўсякую асобную выдачу грошай чэк-ордэр, які запаўняюць падрабязна нават і ў карэнчыку, і што ў некаторых выпадках выпісаныя чэкі-ордэры падпісваюцца толькі бухгальтарам. Гэты парадак мае шмат адмоўных бакоў таму, што сама па сабе простая апярацыя па выпісцы ордэру патрабуе вельмі многа часу. Для зьнішчэньня гэтага, устанаўляецца:

Ніякіх заяў асобы ці ўстановы, якія самі асабіста павінны атрымаць грошы раённага ці ніжэйшых за яго бюджэтаў, складаць не павінны; расходны ордэр складаецца раённаю фінансаваю часткаю паводле новай формы, якая прадугледжвае абавязковасьць запаўненьня ў карэнчыку толькі: парадкавага №, даты і сумы выдачы, а ў самым ордэру—падрабязнага запаўненьня з абавязковым подпісам яго распарадчыкам бюджэту (старшыня раённага выканаўчага камітэту, ці асоба, што яго замяняе) і бухгальтарам; расходны ордэр павінен складацца на кожны выпадак выдаткаваньня сродкаў, незалежна ад таго, ці выдаткоўваюцца яны чэкам на крэдытную ўстанову, ці гатоўкаю з маючагася авансу; характар выдачы сродкаў (чэк ці гатоўка) адзначаецца на самым расходным ордэры, як паказана вышэй.

Што тычыцца сельскіх саветаў, местачковых саветаў, саветаў неакруговых гарадоў, а таксама распарадчыкаў крэдытаў другой ступені, дык выдаткаваньне іх крэдытаў робіцца паводле непасрэдных патрабаваньняў гэтых устаноў, якія складаюцца на ордэрах новай формы і падпісваюцца імі. Ордэры накіроўваюцца ў раённую фінансавую частку, якая не складае свайго ордэру, а выдае чэк на ўстанову Дзяржаўнага Банку ці ашчаднай касы.

Некаторымі раённымі фінансавымі часткамі складаюцца асобныя расходныя чэкі-ордэры тады, калі ў адзін дзень робіцца шмат аднолькавых выдаткаў, напрыклад, выдача платы за памяшканьні, занятыя школамі, выдача грошай на гаспадарчыя выдаткі школ, сельскіх саветаў і г. д.; таксама складаюцца чэкі ордэры на выдачу пэнсіі інвалідам вайны і сем'ям чырвонаармейцаў, нават тады, калі дакумэнтамі для выдачы сродкаў зьяўляюцца талёны, што адрываюцца ад пэнсыйных кніжак, і апроч гэтага чэкі-ордэры складаюцца штодзень нават на апярацыі па процантавых адлічэньнях ад дзяржаўных прыбыткаў у мясцовыя сродкі. Усё пералічанае патрабуе ад працаўнікоў раённай фінансавай часткі зусім непатрэбнай траты часу. А таму прапануецца:

Спыніць складаньне выдатковых ардэроў паводле новай формы на кожны асобны выпадак выдачы сродкаў, калі падобныя выдачы могуць быць аб'яднаны агульнымі раздавальнымі ведамасьцямі, складзенымі па асобных відах выдаткаў.

Забараніць складаньне выдатковых ардэроў на кожны асобны выпадак выдачы пэнсіі паводле пэнсійных кніжак, пры чым, калі пэнсія выдаецца на падставе талёнаў пэнсійных кніжак, выдатковы ордэр складаць ня трэба наогул, а калі пэнсія выдаецца паводле пэнсійных кніжак, пры якіх няма адрэзных талёнаў—трэба складаць ведамасьць і ў канцы дня адзін агульны расходны ордэр.

Катагарычна забараніць складаць расходныя ардэры на апярацыі процантавых адлічэньняў, бо апраўдальным дакумэнтам зьяўляецца штодзённы разьлік паводле формы № 27.

3. У справе парадку захоўваньня касавых і апраўдальных дакумэнтаў па выдатках мясцовых бюджэтаў наглядаецца, што адзінай сыстэмы няма, што касавыя і апраўдальныя дакумэнты захоўваюцца асобна і што поруч з дакумэнтамі складаюцца рэестры дакумэнтаў, у якіх амаль што цалком перапісваецца зьмест дакумэнтаў. З гэтай прычыны, для разьвіцьця п. 24 Інструкцыі, на будучы год устанаўляецца наступны парадак захоўваньня дакумэнтаў: усе расходныя дакумэнты— касавыя (ардэры) і апраўдальныя да іх дакумэнты—захоўваюцца разам; дакумэнты разьмяркоўваюцца ў парадку бюджэтнай намэнклятуры і захоўваюцца без жадных пералікаў гэтых дакумэнтаў.

4. У зьвязку з тым, што з 1 кастрычніка г. г., паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 22/VIII 1928 г., будзе праведзена касавая рэформа ў кірунку ліквідаваньня скарбовых частак, для зьмены п. 24-а інструкцыі, „прыходныя і расходныя дакумэнты на дзяржаўныя прыбыткі, а таксама і на іншыя сумы нераённых бюджэтаў пасылаюцца штодзень у акруговыя агэнцтвы Дзяржаўнага Банку“.

5. Азнаямленьне з парадкам запісаў касавых зваротаў раённых фінансавых частак выявіла, што: 1) у некатарых раённых фінансавых частках вядуцца „белавыя“ і „чарнавыя“ касавыя кнігі і асобныя касавыя кнігі на беспасрэдныя падаткі і 2) запісы ў касавую кнігу робяцца вельмі падрабязна—перапісваецца ў касавую кнігу ўвесь зьмест дакумэнтаў.

Каб скараціць працу, прапануецца:

Ліквідаваць роўналежныя касавыя кнігі, а таксама касавыя кнігі, прадугладжаныя Інструкцыяю аб акладным рахункаводзтве па картачнай сыстэме. У далейшым у кожнай раённай фінансавай частцы весьці толькі адну касавую кнігу.

Запісы ў касавай кнізе, у гр. 3 „калі і ад каго пастуціла“, ці „калі і каму выдадзена“, па апэрацыях з сумамі мясцовых бюджэтаў рабіць не падрабязна, а коратка, адзначаючы толькі на прыходзе дакумэнт, па якому грошы атрыманы (напрыклад, выплатная заява), і ад каго, а ў расходзе—№ расходнага ордэру і каму. Ніякіх запісаў у тэксьце за што грошы атрыманы ці на што яны выдадзены рабіць ня трэба.

У той-жа час заўважана, што ў касавай кнізе зусім не запісваліся сумы, якія атрымоўваліся раённымі фінансавымі часткамі паводле пераводаў для перадачы па прызначэньні, а таму прапануецца ў далейшым:

Усе сумы, якія паступаюць на імя раённага выканаўчага камітэту ці раённай фінансавай часткі, альбо службовай асобы пералічаных устаноў, абавязкова запісваюць і ў касавай кнізе, і ў кнізе разрахункаў з living рознымі асобамі і ўстановамі.

6. Для зьмены п. 39 Інструкцыі вызначаецца, што сродкі па бягучых рахунках крэдытных устаноў (агэнцтвы Дзяржаўнага Банку, ці касы ашчаднасьці) атрымоўваюцца і выдаткоўваюцца паводле чэкаў гэтых крэдытных устаноў.

7. Ня гледзячы на тое, што ў п. п. 41—45 Інструкцыі была дакладна паказана непатрэбнасьць вядзеньня асобных кніг для падлічваньня прыбыткаў мясцовых бюджэтаў у зьвязку з увядзеньнем карткавай сыстэмы падлічваньня прыбыткаў, у паасобных раённых фінансавых частках наглядаецца падлічваньне прыбыткаў і па картках і па кнігах. Катэгарычна прапануецца забараніць у далейшым падлічваньне прыбыткаў па кнігах.

8. Для зьмены п. 99-а зазначаецца, што весьці асобную кнігу для падлічваньня аблігацый дзяржаўных пазычак ня трэба, бо парадак рахункаводзтва і справаздачнасьці па рэалізацыі кожнай паасобнай дзяржаўнай пазычкі, а таксама і формы падлічваньня вызначаюцца спэцыяльнымі інструкцыямі НКФ СССР. Такім чынам па апярацыях падлічваньня аблігацый дзяржаўных пазычак трэба кіравацца інструкцыямі НКФ СССР аб парадку падліку і справаздачнасьці.

9. У дадатак па п. 99-г Інструкцыі аб парадку падліку пераходных каштоўнасьцяй, устанаўляецца, што ў кнізе пераходных каштоўнасьцяй павінны падлічвацца ня толькі каштоўнасьці, атрыманыя ў заставу, але і каштоўнасьці, атрыманыя для перадачы іншым асобам ці ўстановам па прызначэньні, напрыклад, аблігацыі дзяржаўных пазычак, атрыманых па калектыўнай падпісцы і інш.

10. Для ўдасканаленьня вызначанага п. 99-д Інструкцыі парадку падлічваньня сум, якія атрымоўваюцца з пошты, устанаўляецца, што для атрыманьня сум з пошты, у паштовую ўстанову трэба падаваць ня толькі павестку, але і кнігу павестак ф. № 23, у якой пошта павінна рабіць адзнаку аб выдачы пераводаў і каштоўных пасылак. Гэты парадак трэба ўвесьці з бягучага бюджэтнага году і строга наглядаць за яго дакладным выкананьнем.

11. У зьвязку з тым, што пры вызначаным пастановаю ЦВК і СНК СССР за 22/VIII—28 г. парадку абавязковай здачы штодзень раённымі фінансавымі часткамі ўсяе гатоўкі на захаваньне ў крэдытныя ўстановы, раённыя фінансавыя часткі ня будуць мець у сябе дзяржбюджэтных сродкаў, вызначаны п. п. 121—146 Інструкцыі парадак

правядзеньня дзяржаўных выдаткаў праз раённыя фінансавыя часткі з новага бюджэтнага году скасоўваецца. Паказаньне аб новым парадку будзе распрацавана ў бліжэйшы час.

12. Абежнік НКФ БССР за 8 жніўня 1928 г. № 2104—31 „пра выплату заработнай платы служачым сельскіх устаноў праз сельскія саветы і касы ашчаднасьц", а таксама „Інструкцыя аб парадку перасылкі праз дзяржаўныя працоўныя касы ашчаднасьці сродкаў дзяржаўнага бюджэту, якія прымаюцца касамі раённых выканаўчых камітэтаў", зацьверджанная НКФ БССР 26/VI—28 г., астаюцца бяз зьмен і павінны выконвацца ў наступным бюджэтным годзе.

13. Усе формы кніг і блянкаў, вызначаныя Інструкцыяю, апроч форм: расходнага ордэру, кладовай кнігі, кнігі пераходных каштоўнасьцяй і кнігі падлічваньня аблігацый дзяржаўных пазычак, астаюцца бяз зьмен; форма расходнага ордэру, кладовай кнігі і кнігі пераходных каштоўнасьцяй далучаюцца да гэтага абежніку. Спэцыяльная кніга падлічваньня аблігацый скасоўваецца.

Акруговыя фінансавыя аддзелы павінны ўжыць захады да сваечасовай загатоўкі патрэбнай колькасьці кніг і блянкаў для раённых фінансавых частак свае акругі. Пры загатоўцы кніг і блянкаў трэба падлічыць запасы кніг і блянкаў з тым, каб у першую чаргу яны былі скарыстаны.

У сувязі з тым, што фармат заказаных у мінулым годзе некатарых кніг не задавольваў усім патрабаваньням працы раённых фінансавых частак, НКФ БССР лічыць магчымым павялічыць фармат паасобных кніг да фармату звычайных стандартызаваных канторскіх кніг. Колькасьць аркушаў у кнігах трэба падлічаць у адпаведнасьць з аб'ёмам зваротаў данай раённай фінансавай часткі.

Усе паказаныя вышэй зьмены і дапаўненьні Інструкцыі аб рахункаводзтве і справаздачнасьці раённых фінансавых частак трэба ажыцьцявіць у раённых фінансавых частках з наступнага бюджэтнага году.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Начальнік Бюджэтнага Кіраўніцтва НКФ
БССР **А. Сьцепанюк.**

Начальнік Адм.-Арг. Кіраўніцтва НКФ
БССР **Варушыла.**

14 верасьня 1928 г.
№ 1114—6.

---

*Дадатак 1.*

Форма № 22.

# КНІГА

пераходных каштоўнасьцяй ..........

раённай касы .......... акругі

На 192 ..... 192 ..... б. г.

| №№ артыкулаў па парадку | Месяц і дзень | Ад каго і на што атрыманы, ці каму выдадзены, альбо адасланы | Назва папер | №№ аблігацый і сэрый | Прыход. | | | Расход. | | | Астаецца | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Лік аркушаў | Цана папер | Сума | Лік аркуш. | Цана папер | Сума | Лік аркуш. | На суму |
| | | | | | | | | | | | | |

*Дадатак 2.*

# КЛАДОВАЯ КНІГА

.......... Раённай касы

На 192 ..... 192 ..... б. г.

| *Месяц і дзень* | Рэшта гатоўкі (грошай) | Рэшта аблігацый сялянскай пазычкі, якія атрыманы для выплат | Рэшта залатой манэты старога вырабу па наміналу | Рэшта аблігацый дзяржаўнай пазычкі, якія прысланы для рэаліз. па наміналу | Рэшта гэрбавых знакаў, вэксальнай паперы і актавай на агульную суму | Рэшта застаўленых каштоўных папер | Рэшта аблігацый, атрыманых для передачы купцом | Подпіс асоб, якія сьведчаць правільнасьць запісаных рэштаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | |

*Дадатак 3.*

| Карэнчык Расходнага ордэру | РАСХОДНЫ ОРДЭР №.......... |
|---|---|
| №.......... | На касу.......... Раённага Выканаўчага Камітэту .......... 192 г. №.......... (арт. касав. кнігі). |
| "..".......... 192.......... г. | Разьдз. .......... §.......... арт. .......... |
| На.......... р.......... к. | Бюджэт 192 г. .......... р.......... к. |
| | Выдаць .......... (каму) .......... |
| | За што ці на што .......... |
| | (словамі).......... руб. .......... кап. |
| | Старшыня Раённага Выканаўчага Камітэту |
| | Бухгальтар |
| | Атрымаў { Грашмі .......... ; чэк №.......... на суму .......... } |
| | Грошы выдаў касір .......... |

---

## 4. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

### пра збор плацяжоў па абавязковым акладным страхаваньні у сельскіх мясцовасьцях БССР.

*Раённым выканаўчым камітэтам.*

Выдадзена на падставе п. 2 пастановы Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР за 31 жніўня 1928 году).

### I. Агульныя палажэньні.

**Органы, на якія ўскладзен збор акладных страхавых плацяжоў.**

§ 1. Плацяжы па сельскім абавязковым акладным страхаваньні прымаюцца ад страхавальнікаў толькі раённымі выканаўчымі камітэтамі і сельскімі саветамі, на падставе складзенных агэнцтвамі Дзяржаўнага Страхаваньня акладных страхавых лістоў.

*Увага.* Толькі агэнцтвы Дзяржаўнага Страхаваньня могуць зьнімаць налічаныя страхавыя плацяжы ўва ўсіх выпадках, апроч льгот, і зварочваць па розных прычынах страхавальнікам плацяжы.

### II. Парадак прыйманьня страхавых плацяжоў.

**Разьмеркаваньне атрыманай сумы паміж нядоімкаю і акладам.**

§ 2. Калі за страхавальнікам, разам з акладам, лічыцца нядоімка, дык з атрыманых грошай перш за ўсё папаўняецца нядоімка мінулага году з пеняю. Лішак-жа, які астанецца пасьля папаўненьня нядоімкі з пеняю, залічваецца ў рахунак акладу.

**Адзнакі ў акладных страхавых лістох аб атрыманьні плацяжоў.**

§ 3. Аб кожным атрыманьні ад страхавальнікаў акладных страхавых плацяжоў робіцца адзнака на акладных страхавых лістох, якая

падпісваецца асобаю, што атрымала грошы (касірам раённага выканаўчага камітэту, ці прадстаўнікам сельскага савету), і ставіцца пячатка раённага выканаўчага камітэту, альбо сельскага савету.

Забараняецца атрымоўваць грошы без адзнакаў на акладных страхавых лістох альбо выдаваць асобныя расьпіскі ці квіты аб атрыманьні грошай.

**Складаньне рэестраў платнікаў.**

§ 4. Адначасова з адзнакаю на акладным лісьце аб выплаце страхавых плацяжоў, асоба, што атрымала грошы, запісвае атрыманую суму ў рэестры (фор. акл. № 12). Рэестры гэтыя павінны служыць: раённым выканаўчым камітэтам для заприходваньня ў касавых кнігах атрыманых грошай і паведамленьня сельскіх саветаў аб платніках і выплачаных сумах, а сельскаму савету для здачы атрыманых грошай раённым выканаўчым камітэтам і адзнакаў у іменных сьпісах аб выплачаных страхавальнікамі плацяжох.

§ 5. У рэестры запісваецца кожны платнік асобна ў наступным парадку:

а) у графе 1 адзначаецца нумар адкладнога страхавога ліста (№ у іменным сьпісе);

б) у графах 3-6 паказваецца атрыманая сума, з разьмеркаваньнем на нядоімку, аклад і пэню;

в) у графе 7 адзначаецца сума, якая паступіла за прымусовае спагнаньне.

*Увага.* Калі плацяжы прымаюцца сельскімі саветамі, то ў графе 8 (увага) расьпісваецца платнік.

§ 6. У раённых выканаўчых камітэтах кожны дзень заводзіцца новы рэестр і пры тым асобны на кожны сельскі савет, а ў сельскіх саветах вядзецца адзін рэестр да здачы атрыманых грошай раённаму выканаўчаму камітэту.

§ 7. У канцы кожнага дня раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы падрахоўваюць ў кожным рэестры атрыманыя сумы (нядоімкі, акладу, пені, разам і за прымусовае спагнаньне), адзначаючы агульную суму словамі. Правільнасьць падрахункаў сьведчыцца подпісамі: старшыні раённага выканаўчага камітэту (або загадчыка фінансавай часткі), ці старшыні сельскага савету і асобы, якая прымала плацяжы.

§ 8. Рэестры павінны запаўняцца акуратна без падчыстак і з заўвагамі аб кожнай папраўцы. І раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы рэестры складаюць ў 2-х экзэмплярах.

## III. Здача і падлічваньне атрыманых плацяжоў.

**Здача сельскімі саветамі атрыманых сум.**

§ 9. Сельскія саветы атрыманыя імі ад страхавальнікаў сумы плацяжоў разам з рэестрамі здаюць раённым выканаўчым камітэтам ня менш двух раз у тыдзень.

**Прыйманьне раённымі выканаўчымі камітэтамі сабраных сельскімі саветамі плацяжоў.**

§ 10. Пры атрыманьні раённымі выканаўчымі камітэтамі ад сельскіх саветаў спагнаных апошнімі страхавых плацяжоў, перш за ўсе правяраецца правільнасьць падрахункаў у графах рэестраў і своечасовасьць здачы грошай. Аб атрыманьні грошай даецца сельскаму савету расьпіска на адным экзэмпляры рэестру, якая падпісваецца: старшынёю раённага выканаўчага камітэту (альбо загадчыкам фінансавай часткі) і касірам. Другі экзэмпляр рэестру астаецца ў раённым выканаўчым камітэце.

**Запрыходваньне раённым выканаўчым камітэтам атрыманых плацяжоў.**

§ 11. У канцы аперацыйнага дня касір раённага выканаўчага камітэту падлічвае сумы плацяжоў, якія непасрэдна паступілі ў касу раённага выканаўчага камітэту, а таксама і здадзеныя сельскімі саветамі і запісвае іх агулам у касавую кнігу раённага выканаўчага камітэту асобна ад іншых сум, пад назваю „страхавыя плацяжы“, адзначаючы на кожным рэестры артыкул запісу па касавай кнізе.

**Паведамленьне сельскім саветам аб плацяжох, атрыманых раённымі выканаўчымі камітэтамі.**

§ 12. Раённыя выканаўчыя камітэты адзін экзэмпляр рэестру на сумы, якія паступілі ад страхавальнікаў непасрэдна ў іх касы, не пазьней наступнага рабочага дня пасылаюць адпаведным сельскім саветам для адзначэньня ў іменных сьпісах атрыманых страхавых плацяжоў.

*Увага.* Страхавыя агэнцтвы для адзначэньня ў асобных рахунках атрыманых страхавых плацяжоў карыстаюцца рэестрамі, якія знаходзяцца ў раённых выканаўчых камітэтах.

**Падлічэньне страхавых плацяжоў, здадзеных платнікамі іншых раёнаў.**

§ 13. Атрыманыя страхавыя плацяжы ад платнікаў іншых раёнаў запісваюцца ў асобныя рэестры, складзеныя ў 2-х экзэмплярах на кожны раён, адзначаючы ва ўвазе рэестру якога сельскага савету платнік, і запрыходваюцца ў касавай кнізе на агульных умовах (§ 11). Адзін экзэмпляр рэестру астаецца ў раённым выканаўчым камітэце, які атрымаў грошы, а другі экземпляр не пазьней наступнага дня адсылаецца раённаму выканаўчаму камітэту па месцы знаходжаньня застрахаванай маемасьці платнікаў для паведамленьня адпаведных сельскіх саветаў аб паступленьні плацяжоў.

**Перавод атрыманых плацяжоў на бягучы рахунак Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР і вылічэньне выдаткаў на збор і перасылку грошай.**

§ 14. Сабраныя сумы акладных страхавых плацяжоў, апроч: а) 3% заплаты за збор плацяжоў, б) сум, атрыманых за прымусовае спагнаньне, в) выдаткаў на перавод грошай і г) кошту тэлеграм аб выніках збору плацяжоў (§ 16), не пазьней наступнага пасьля прыняцьця грошай рабочага дня, пераводзяцца на імя Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР: тымі раённымі выканаўчымі камітэтамі, якія знаходзяцца ў мясцовасьцях, дзе ёсьць установы Дзяржаўнага Банку (аддзяленьні, агэнцтвы), праз гэтыя ўстановы, а іншымі раённымі выканаўчымі камітэтамі—перасылаюцца праз пошту парадкам, вызначаным Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР.

*Увага 1.* 3% заплаты за збор плацяжоў вылічваюцца толькі з сумы акладу і нядоімкі (бяз пені).

*Увага 2.* Сумы за прымусовае спагнаньне астаюцца ў распараджэньні раённых выканаўчых камітэтаў.

*Увага 3.* У патрэбных выпадках раённыя выканаўчыя камітэты выдаюць страхавым агэнцтвам патрэбныя сумы грошай для выплаты страхавых страт парадкам, які ўстанаўляецца Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР.

**Агульны падлік страхавых плацяжоў.**

§ 15. Каб падлічваць акладныя страхавыя плацяжы, раённыя выканаўчыя камітэты вядуць рахункі для кожнага сельскага савету свайго раёну паводле формы, устаноўленай Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР. Дапрылічаныя, выключаныя і зьнятыя сумы акладных

страхавых плацяжоў падлічваюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі на падставе зьвестак, якія павінны давацца страхавымі агенцтвамі ў канцы кожнага месяцу.

*Увага.* На дапрылічаныя і выключаныя плацяжы страхавыя агэнцтвы, апроч таго, пасылаюць іменныя сьпісы і дадатковыя акладныя страхавыя лісты сельскім саветам для збору дапрылічанай сумы і адзначэньня выключаных плацяжоў у асноўных іменных сьпісах.

## VI. Справаздачнасьць.

### Тэлеграфныя паведамленьні.

§ 16. Два разы ў месяц 1 і 16 кожнага масяца раённыя выканаўчыя камітэты складаюць і пасылаюць акруговым выканаўчым камітэтам тэлеграмы аб атрыманых у раёне плацяжох за ўвесь час з пачатку акладной кампаніі. Прыблізны зьмест тэлеграмы такі: „Менск, Акрвыканком 1156 тчк 8281 Подпіс“. Гэта значыць з пачатку кампаніі паступіла: нядоімкі 1156 рублёў і акладу 8281 руб.

Зьвесткі аб атрыманай пені і за прымусовае спагнаньне ў тэлеграму не ўключаюцца.

### Складаньне параўнальных табліц.

§ 17. Адаслаўшы тэлеграму, раённыя выканаўчыя камітэты складаюць па ўстаноўленай форме параўнальную табліцу аб пасьпяховасьці збору акладных страхавых плацяжоў у асобных сельскіх саветах і пасылаюць усім сельскім саветам раёну і адзін экземпляр перадаюць раённаму страхавому агэнцтву.

### Месячная справаздача аб атрыманых плацяжох.

§ 18. У канцы кожнага месяцу раённыя выканаўчыя камітэты складаюць паводле ўстаноўленай формы справаздачы аб зборы і здачы сум страхавых плацяжоў за мінулы месяц у 3-х экзэмплярах, з якіх: адзін экзэмпляр пасылаюць Кіраўніцтву Дзяржаўнага Страхаваньня БССР не пазьней як на 5 дзень наступнага месяца; другі экземпляр перадаюць страхавому агэнцтву і трэці экземпляр астаўляюць у сваіх справах. Да паказанай справаздачы Кіраўніцтву Дзяржаўнага Страхаваньня далучаюцца дакумэнты, якія пацьвярджаюць перавод грошай на бягучы рахунак Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР і ўсе іншыя выдаткі, паказаныя ў справаздачы.

*Увага.* Плацяжы, здадзеныя ў касы іншых раённых выканаўчых камітэтаў, паказваюцца ў справаздачы: раённымі выканаўчымі камітэтамі, якія атрымалі грошы, толькі на прыходзе і пры тым асобна ад плацяжоў, сабраных па свайму раёну (рубрыка 5), а раённымі выканаўчымі камітэтамі па месцы знаходжаньня маемасьці платніка—на прыходзе разам з сумамі атрыманымі ў яго касу, а ў расходзе—асобна агульнаю сумаю у рубрыцы.

*Дадатак.* Формы бланкаў: 1) рэестру атрыманых страхавых плацяжоў; 2) параўнальнай табліцы і 3) месячнай справаздачы.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Старшыня Кіраўніцтва Дзяржаўнага
Страхаваньня БССР **З. Чарнушэвіч.**

19 верасьня 1928 г.

*Дадатак 1.*

**Акладное страхаваньне**

КІРАЎНІЦТВА ДЗЯРЖАЎНАГА СТРАХАВАНЬНЯ Б. С. С. Р.

# РЭЕСТР №.........

атрыманых страхавых плацяжоў за 192 -192 аперац. год

......... Сельскім Саветам

......... раёну

за .........
(тэрмін)

| №№ страх. акладных лістоў | Прозьвішча і ініцыялы платнікў | Атрымана страхавых плацяжоў | | | | | | | | Атрымана штрафу і за прымусовае спагнаньне | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Нядоімкі | | Акладу бягучага году | | Пені | | Разам | | | |
| | | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | | |
| 1 | 2 | 3 | | 4 | | 5 | | 6 | | 7 | 8 |
| | | | | | | | | | | | |

*Дадатак 2.*

# ПАРАЎНАЛЬНАЯ ТАБЛІЦА

аб атрыманых акладных страхавых плацяжах ў сельскіх саветах

......... раёну за ......... месяц 192 г.

| Месца па пасьпяховасьці | Назва сельскіх саветаў | Трэба было атрымаць | | АТРЫМАНА | | | | Процант атрыманьня | Недабрана | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | За справаздачны месяц | | Ад пачатку году | | | | |
| | | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | | Руб. | К. |
| 1 | 2 | 3 | | 4 | | 5 | | 6 | 7 | |
| | | | | | | | | | | |

*Дадатак 3.*

..............................................................

Раённы Выканаўчы Камітэт

............................................................ Акругі

У Кіраўніцтва Дзяржаўнага
Страхаваньня БССР.

Копія ў ...................................................... Раённае
Страхавое Агенцтва.

# СПРАВАЗДАЧА

## аб зборы і здачы акладных страхавых плацяжоў

*За* .............................................................. *м-ц 192 г.*

| ПРЫХОД | Сума Р. | Сума к. | РАСХОД | Сума Р. | Сума к. |
|---|---|---|---|---|---|
| АТРЫМАНА: | | | 1. Здадзена для адсылкі ў Белдзяржстрах . . . | | |
| 1. Нядоімкі . . . . | | | 2. Выдадзена Страхавому Агэнцтву . . . . | | |
| 2. Акладу . . . . | | | 3. Адлічана за прымусовае спагнаньне . . . | | |
| 3 Пені . . . . | | | 4. Атрымана заплаты за збор | | |
| 4. За прымусовае спагнаньне | | | 5. Заплачана за перасылку грошай . . . . | | |
| 5. За рахунак .................. .................. раённага выканаўчага камітэту . | | | 6. Заплачана за тэлеграмы . | | |
| | | | 7. Атрымана рэестраў ад .................................. раённых выканаўчых камітэтаў . . . . | | |
| Разам . | | | Разам . | | |

Дадатак ..........................................................................................

..........................................................................................................

*Старшыня Раённага*
№ ..................... *Выканаўчага Камітэту* ..............................

.................................... *192 г.* *Загадчык раённай*
*фінансавай часткі* ..............................

## 5. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

**пра парадак рэвізіі раённымі выканаўчымі камітэтамі касавых апарацый раённых агэнцтваў дзяржаўнага страхаваньня БССР.**

*(Выдадзена на падставе п. „в“ § 78 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 22 сьнежня 1927 г., зацьверджанай на II сэсіі ЦВК БССР VIII скліканьня 13 студзеня 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 6, арт: арт. 35 і 36).*

§ 1. Праверка грашовай гатоўкі і рэвізія касавых апарацый раённых страхавых агэнцтваў, апроч асоб, упаўнаважаных Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР, робіцца раённымі выканаўчымі камітэтамі парадкам, прадугледжаным у гэтай інструкцыі.

§ 2. Праверка касавай гатоўкі раённых страхавых агэнцтваў ускладаецца на загадчыкаў фінансавых частак раённых выканаўчых камітэтаў, а рэвізіі касавых апарацый робяцца асобамі, упаўнаважанымі раённымі выканаўчымі камітэтамі.

*Увага.* На вядзеньне рэвізіі павінна давацца кожны раз асобнае даручэньне і абавязкова ў пісьмовай форме, якое, у пачатку рэвізіі, паказваюцца асобаю, што будзе рабіць рэвізіі, страхавому агэнту.

§ 3. Праверка грашовай гатоўкі павінна рабіцца ня менш аднаго разу ў два месяцы, а рэвізія касавых апарацый—ня менш аднаго разу на працягу аперацыйнага году.

*Увага.* Праверка грашовай гатоўкі і рэвізія касавых апарацый павінны рабіцца раптоўна, пры чым праверку гатоўкі грошай трэба рабіць кожны раз у розныя дні месяца.

§ 4. Пры праверцы касавай гатоўкі агэнцтва трэба патрабаваць ад агэнта, каб ён паказваў усе прыходныя і расходныя дакумэнты за бягучы месяц, і абавазкова правяраць за гэты месяц правільнасьць запісаў у касавай кнізе. Трэба зварочваць увагу на тое, ці сваячасова запрыходваюцца атрыманыя ў касу агэнцтва грошы і ці не захоўваецца без патрэбы ў агэнцтве гатоўка грошай больш вызначанага ліміту.

§ 5. Пры рэвізіі касавых апарацый, апроч пералічанага ў папярэднім параграфе, трэба: параўноўваць усе запісы ў касавай кнізе па прыходу (з часу апошняй рэвізіі) з карэньчыкамі квітоў і іншымі дакумэнтамі, правераць расходныя дакумэнты за бягучы месяц, кантраляваць адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі і параўноўваць месячныя падрахункі касавай кнігі і копій касавых справаздач за мінулыя месяцы з паведамленьнямі Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР аб зацьверджаньні касавых справаздач. Абавязкова трэба правяраць увесь запас квітковых кніжак і наяўнасьць інвэнтару агэнцтва.

Калі ёсьць сумненьні, то трэба рабіць фактычную праверку тае ці іншае апярацыі агэнцтва.

*Увага.* Рэвізуючы касавыя апярацыі, асоба, што робіць рэвізію, павінна кіравацца дзейнымі інструкцыямі і абежнікамі Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР аб парадку вядзеньня страхавымі агэнцтвамі касавага рахункаводзтва і справаздачнасьці.

§ 6. Пры кожнай праверцы грашовай гатоўкі і рэвізіі касавых апярацый, асоба, што робіць рэвізію, падрахоўвае ў касавай кнізе прыходы і расходы, вылічае астачу і робіць надпіс аб выніках фактычнай праверкі гатоўкі грошай, які ёю падпісваецца.

Апроч таго, складаецца акт у трох экзэмплярах, з якіх: адзін экзэмпляр пасылаецца Кіраўніцтву Дзяржаўнага Страхаваньня БССР у

г. Менск, другі экзэмпляр перадаецца страхавому агэнцтву, а трэці экзэмпляр астаўляецца ў справах раённага выканаўчага камітэту. Акты аб выніках праверкі грашовай гатоўкі складаюцца на спэцыяльных блянках, якія высылаюцца Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР, а рэвізійныя акты—паводле ўзору далучанага да гэтай інструкцыі.

*Дадатак* 1) форма блянкаў актаў аб праверцы грашовай гатоўкі і
2) узор рэвізійнага акту.

За Народнага Камісара Фінансаў БССР **М. Кардашэнка.**

Старшыня Кіраўніцтва Дзяржаўнага
Страхаваньня БССР **З. Чарнушэвіч.**

20 верасьня 1928 г.

---

*Дадатак 1.*

## А К Т.

192 . . г. . . . . . . . . . . . . „ „ дня. Я, Загадчык Фінансавай Часткі . . . . . . . . . . . . Раённага Выканаўчага Камітэту . . . . . . . . . . . . Акругі . . . . . . . . . . . . . . . , у прысутнасьці
(прозьвішча і ініцыялы)
супрацоўнікаў . . . . . . . . . . . . . раённага страхавога агэнцтва . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . , зрабіў
(пасады і прозьвішчы)
раптоўную праверку гатоўкі грошай у касе страхавога агэнцтва.

1. Страхавы агэнт т. . . . . . . . . . . . . . . . паказаў: а) гатоўку грошай . . . . . . руб. . . . . кап.; б) кніжку № . . . . . мясцовай касы ашчаднасьці № . . . . . . . на . . . . . . р. . . . к. і в) наступныя дакумэнты: . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
а разам (грашмі і дакумэнтамі) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(словамі)
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

2. Паводле запісаў у касавай кнізе на „ “ . . . . . . . 192 г. (Апошнія артыкулы: на прыходзе № . . . . . і ў расходзе № . . . ), значыцца: на прыходзе . . . . . р. . . . к. і ў расходзе . . . р. . . к., з астачаю ў суме . . . . . р. . . . к.

3. Не запісаны ў касавай кнізе з „ “ . . . . . . . . . . да дня праверкі.

А. Па прыходу: . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Б. Па расходу: . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

4. Пасьля залічэньня паказаных у п. 3 сум, астача грошай у касе агэнцтва складае . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Такім чынам, агэнтам . . . . паказана . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

5. Пры параўнаньні запісаў у касавай кнізе за бягучы месяц з апраўдальнымі дакумэнтамі (вынікі) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

6. Астача гатоўкі грошай у касе агэнцтва па сваіх сумах вызначана . . . . . . ліміт . . . . . . . перавышана . . . . (выпадкі перавышэньня, калі яны былі) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Загадчык Раённай Фінансавай Часткі

Страхавы агэнт

Прысутнічалі:

*Дадатак 2.*

Узор

АКТ

192 . . г. . . . . . . . . . „ . . “ дня. Я, падпісаны ніжэй . . . . .
(пасада)
. . . . . . . . . . . . Раённага Выканаўчага Камітэту . . . . . . .
(назва Раённага Выканаўчага Камітэту)
. . . . . . . . . . . . . . Акругі . . . . . . . . . . . . на падставе даручэньня
(прозьвішча)
чэньня Раённага Выканаўчага Камітэту за „ “ . . . . . . . . . .
192 . . г., № . . . . . у прысутнасьці супрацоўнікаў . . . . . . . .
раённага страхавога агэнцтва . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(пасады і прозьвішчы)
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
на працягу часу з „ “ да „ “ . . . . . . . . . . . . 192 . . г.,
зрабіў рэвізію касавых апярацый страхавога агэнцтва за час з „ “
. . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.

Апошняя рэвізія агэнцтва была зроблена . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . „ . . “ . . . . 192 . . г.
(кім)

(Далей зьмяшчаюцца вынікі рэвізіі, абгрунтованыя на фактах, заключэньне асобы, што робіць рэвізію, і ў адпаведных выпадках тлумачэньне агэнта).

Акт падпісваецца асобаю, што рабіла рэвізію, агэнтам і прысутнымі пры рэвізіі асобамі.

---

## 6. Інструкцыя Народных Камісарыятаў Унутранных Спраў, Фінансаў і працы БССР

### Пра парадак ужываньня пастановы ЦВК і СНК БССР за 18 жніўня 1928 году „Пра пэрыадычныя набаўкі за выслугу гадоў да заработнай платы работнікаў страявога складу міліцыі і актыўнага складу крымінальнага вышуку“.

1. Пэрыадычныя набаўкі ўстаноўлены для асоб, якія займалі пасады, пералічаныя ў арт. 2 пастановы ЦВК і СНК БССР за 18 жніўня 1928 году „Пра пэрыадычныя набаўкі за выслугу гадоў да заработнай платы работнікаў страявога складу міліцыі і актыўнага складу крымінальнага вышуку“, а ўласна:

**У міліцыі:**

а) Малодшых міліцыянэраў.
б) Ст. міліцыянэраў.
в) Пам. квартальных наглядчыкаў.
г) Квартальных наглядчыкаў.
д) Камандзіраў узводу конных рэзэрваў.
е) Загадчыкаў камэрамі для затрыманых.
ж) Памочнікаў н-ка гарадзкіх аддзяленьняў і раёнаў.
з) Начальнікаў гарадзкіх аддзяленьняў і раёнаў.
і) Начальнікаў конных рэзэрваў.
к) Старшынь гарадзкіх аддзяленьняў.
л) Інструктароў-рэвізораў адм. аддзелаў.

**У крымінальным вышуку:**

а) Агэнтаў.
б) Памочнікаў інспэктароў.
в) Інспэктароў актыўных і сакрэтных частак.
г) Загадчыкаў гадавальнікаў службова-вышуковых сабак.
д) Муштроўшчыкаў службова-вышуковых сабак.
е) Дактылёскопаў.
ж) Заг. Рэг. Бюро.

2. Работнікі міліцыі і крымінальнага вышуку, камандыраваныя для праходжаньня курсу ў школу міліцыі БССР, увесь час знаходжаньня ў школе атрымоўваюць набаўкі ад тае акругі, у якой яны лічыліся на службе.

3. Каб мець права на набаўку, работнік міліцыі і крымінальнага вышуку павінен увесь устаноўлены арт. 1 пастановы час бесперапынна займаць якую-небудзь з паказаных у арт. 1 гэтай інструкцыі пасад і знаходзіцца на аднэй з іх да моманту зыходу тэрміну, за які ўстаноўлена набаўка.

*Увага 1.* Работнікам страявога складу міліцыі і актыўнага складу крымінальнага вышуку, зьніжаным на якую-небудзь з паказаных у арт. 1 гэтай інструкцыі пасад. з прычыны скарачэньня штатаў, ці раёнаваньня, залічваецца ў выслугу гадоў ранейшая служба.

*Увага 2.* Работнікам міліцыі, якія скончылі курс школы міліцыі і паступілі ў гэтую школу з боку, тэрмін службы лічыцца ад дня залічэньня іх на працу ў міліцыю, альбо ў крымінальны вышук.

4. Калі ў праходжаньні работнікам службы былі перапынкі, то такі работнік траціць права на пэрыадычную набаўку і тэрмін бесперапыннай службы зноў пачынаецца з моманту апошняга паступленьня на службу ў міліцыю.

5. Калі работнікі міліцыі і крымінальнага вышуку вернуцца на службу, то перапынкам ня лічыцца:

а) час, які яны праслужаць па прызыву ў Чырвонай Арміі;
б) замяшчэньне выбарных пасад;
в) часовае выкананьне іншай працы ў міліцыі на пасадах, якія не даюць права на пэрыадычныя набаўкі;
г) звальненьне са службы з прычыны страты працаздольнасьці;
д) звальненьне са службы пры скарачэньнях штатаў.

У апошніх двух выпадках пры ўмовах, калі перапынак не перавышаў 3-х месяцаў. Аднак, час, праведзены работнікамі не ў шэрагах міліцыі, у тэрміны праў на набаўкі не залічваецца.

Таксама ня лічыцца перапынкам перавод работнікаў міліцыі з аднаго органу міліцыі і крымінальнага вышуку ў другі, які робіцца пасьля ўзгадненьня гэтых органаў ці распараджэньнем вышэйшай інстанцыі, паводле асабістага жаданьня работніка.

6. Калі аднаўляецца на пасадзе няправільна звольнены работнік міліцыі і крымінальнага вышуку, то ўвесь час яго прымушанага прагулу залічваецца ў тэрмін выслугі гадоў.

7. Выплата пэрыадычных набавак работнікам міліцыі і крымінальнага вышуку, якія выслужылі паказаныя ў арт. 2 пастановы ЦВК і СНК БССР за 18 жніўня 1928 г. тэрміны да 1 студзеня 1928 г., пачынаецца з 1 кастрычніка 1928 г.

У далейшым пэрыядычныя набаўкі выплачваюцца з 1 кастрычніка таго году, на 1 студзень якога скончыўся ўстаноўлены тэрмін выслугі.

8. Пэрыядычная набаўка работнікам міліцыі і крымінальнага вышуку выплачваецца з разрахунку асноўнага акладу па апошняй пасадзе і разам з чарговаю выплатаю заработнай платы.

9. Падставаю для выдачы набаўкі пэрсанальна зьяўляецца загад адпаведнага начальніка міліцыі і вышуку.

10. Канфлікты, якія могуць узьнікнуць паміж работнікамі і адміністрацыяю па пытаньні аб устанаўленьні набаўкі, разглядаюцца ў агульным парадку, як разглядаюцца іншыя пытаньні аб заработнай плаце.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў
БССР **Я. Кроль.**

Нам. Народнага Камісара Фінансаў
БССР **Л. Бунін.**

Нам. Народнага Камісара Працы
БССР **Я. Мяркулаў.**

10 верасьня 1928 г.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра парадак устанаўленьня асобных фондаў заработнай платы для аплаты спэцыялістаў на кастрычнік 1928 г.—сакавік 1929 г.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Асобныя фонды заработнай платы для аплаты спэцыялістаў, устаноўленыя ў адпаведнасьці з пастановаю НКП БССР за 13 сакавіка 1928 г., № 14 (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г., № 3), маюць сілу на кастрычнік 1928 г.—сакавік 1929 г.

II. Установы і прадпрыемствы, у якіх зьмяніўся асабовы склад спэцыялістаў у параўнаньні з папярэднім паўгодзьдзем, павінны падаць заяўкі з заключэньнем адпаведнага прафэсіянальнага саюзу, паводле формы, паказанай у пастанове НКП СССР за 24 верасьня 1924 г., № 397/434 („Известия НКТ“ 1924 г., № 38), не пазьней 20 кастрычніка 1928 г. у парадку, прадугледжаным арт. 3 паказанай вышэй пастановы НКП БССР за 13 красавіка 1928 г., № 14.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы
БССР **А. Круглік.**

10 верасьня 1928 г.
№ 57.

---

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра захаваньне сярэдняга заробку за ўдзельнікамі вайсковых манэўраў.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

За рабочымі і служачымі, якія выдзелены адпаведнымі арганізацыямі для ўдзелу ў манэўрах, захоўваецца іх сярэдні заробак па месцы працы за ўвесь час вайсковых манэўраў.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы
БССР **А. Круглік.**

20 верасьня 1928 г.
№ 58.

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковай пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 1 ліпеня 1927 году № 150 „Правила безопасности при устройстве заводов—пороховых, взрывчатых веществ и снаряжательных—и складов при них“.**

Народны Камісарыят Працы БССР на падставе арт. 81 абавязковай пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 1 ліпеня 1927 г. № 150 „Правила безопасности при устройстве заводов—пороховых, взрывчатых веществ и снаряжательных—и складов при них“ (Дадатак да № 43 „Известия НКТ“ за 1927 г.) пастанаўляе увесьці ў сілу паказаную вышэй абавязковую пастанову на тэрыторыі БССР.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

25 верасьня 1928 г.
№ 59.

---

Узгоднена з Народным Камісарыятам Юстыцыі.

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра парадак выбараў і работы ўпаўнаважаных зямельных грамад і груп уладароў жывёлы, якія выбіраюцца для найманьня грамадзкіх пастухоў і падпаскаў.**

Народны Камісарыят Працы БССР прапануе пры ўжываньні арт. 5 пастановы НКП БССР за 1 красавіка 1927 г. № 50 „Аб парадку найманьня і ўмовах працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў“ (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г. № 7) кіравацца наступным:

1. Сход грамадзян, якія наймаюць пастуха, склікаецца па даручэньні сельскага савету адным з яго членаў.

На сход склікаюцца толькі тыя грамадзяне, жывёлу якіх будзе пасьвіць грамадзкі пастух.

Сьпіс паказаных вышэй грамадзян складаецца загадзя членам сельскага савету, які склікае сход.

2. На сходзе прачытваецца сьпіс наймальнікаў, растлумачваецца пастанова аб умовах працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў, парадак адказнасьці за парушэньня гэтай пастановы, высьвятляецца, хто з наймальнікаў адмаўляецца ад удзелу ў выбарах упаўнаважанага; прозьвішча грамадзян, якія адмовіліся зараз-жа запісваецца ў пратакол сходу, а грамадзяне, якія не зьявіліся на сход без важных прычын, лічацца, што яны адмовіліся ад удзелу ў выбарах.

3. Выбары робяцца і лічацца законнымі, калі лік грамадзян, якія адмовіліся і адсутнічалі, ня будзе перавышаць 50 проц. усіх наймальнікаў. Калі адсутнічае значная колькасьць наймальнікаў, то склікаецца другі сход, час і месца якога вызначаецца зараз-жа на першым сходзе.

> *Увага.* У лік паказаных у гэтым пункце наймальнікаў не ўваходзяць тыя грамадзяне, якія ўжо заключылі асобныя дагаворы аб найме пастухоў, альбо пасьвяць сваю жывёлу праз членаў свае сям'і, альбо двара.

4. Калі больш за 50 проц. наймальнікаў на сходзе адмовіліся ад выбару ўпаўнаважанага, то сельскі савет склікае яшчэ раз сход, на

якім растлумачваецца абавязковасьць выконваньня пастановы НКП аб умовах працы грамадзкіх пастухоў; калі-ж у гэты раз сход адмовіцца— пратакол з пералікам грамадзян, якія адмовіліся ад выбару, накіроўваецца раённаму упаўнаважанаму па працы і сацыяльным страхаваньні,— то сельскі савет павінен распачаць справу аб прыцягненьні да адказнасьці грамадзян, якія адмовіліся ад удзелу у выбарах.

5. Колькасьць упаўнаважаных павінна быць наступная: да 25 наймальнікаў—1, да 50—2, болей 50 – 3.

6. Упаўнаважаны абавязан весьці перагаворы аб найманьні пастухоў, заключаць пісьмовы дагавор, зьбіраць заработную плату і выдаваць яе пастуху, зьбіраць страхавыя ўносы і плаціць іх раённаму упаўнаважанаму па працы і сацыяльныя страхаваньні. Упаўнаважаны адказвае за выкананьне працоўнага дагавору з пастухамі.

7. Выбраныя ўпаўнаважаныя ня маюць права адмаўляцца ад выкананьня сваіх абавязкаў; калі яны адмовяцца альбо ня выканаюць сваіх абавязкаў, то трэба прыцягваць іх да адказнасьці.

8. Выбраныя ўпаўнаважаныя выконваюць свае абавязкі і ў адносінах да тых наймальнікаў, якія адмовіліся ад удзелу ў выбарах, але далі сваю жывёлу пасьвіць грамадзкаму пастуху.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў**

Ст. Сельска-Гаспадарчы Інспэктар НКП БССР **Лашкэвіч**.

27 верасьня 1928 г.
№ 60.

---

## 11. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра звышмерныя работы пры складаньні балянсаў.

Народны Камісарыят Працы БССР прапануе:

1. Ні ў якім разе не даваць дазволу на звышмерныя работы пры складаньні балянсаў за 1927-28 гаспадарчы год.

2. Адміністрацыі ўсіх арганізацый трэба загадзя правесьці мерапрыемствы, якія-б адхілілі патрэбу звышмерных работ пры складаньні балянсаў.

3. Інспэкцыям Працы трэба праз пракуратуру скарыстаць пастанову НКП і НК РСІ за 1-XI 1926 г. „Пра зьмену абежніку свайго за 17 жніўня 1926 г.“ (Бюлетэнь СНК БССР 1926 г. № 14), паводле якой звышмерныя работы, зробленыя па загаду кіраўнікоў установаў без дазволу органаў НКПрацы, аплачваюцца ўстановаю, для якой яны зроблены; выдаткі-ж на аплату гэтай работы могуць быць вернуты ўстанове паданьне кіраўніку установы, па загаду якога рабілася работа, грамадзянскага іску, або налічэньнем на яго, праз паданьне пракуратурай іскаў паводле арт. 2 ГПК.

4. Інспэкцыям Працы трэба устанавіць фактычны кантроль над установамі, каб выяўляць выпадкі вядзеньня звышмерных работ без дазволу, і прыцягваць вінаватых да крымінальнай адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў**.

Ст. Праўны Інспэктар НКП БССР **Х. Гольдзінбэрг**.

27 верасьня 1928 г.
№ 61.

---

Узгоднена з Народным Камісарыятам
Юстыцыі БССР.

## 12. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 г. „Пра адказнасьць за нарушэньне чыннага заканадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні“.

Для разьвіцьця пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 г. „Пра адказнасьць за нарушэньне чыннага заканадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні“ (З. З. БССР 1928 г., № 26, арт. 257), Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Наймальнікі прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасьці (арт. 2 пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 г.) за нявыдачу разьліковых кніжак, за парушэньне ўстаноўленага парадку атрыманьня дазволаў на звышмерныя работы, за непадачу ў страхавыя касы разьліковых ведамасьцяй, за непадачу на зацьверджаньне інспэктароў працы правілаў унугранага парадку (арт. 54 Код. Зак. аб Працы), за непадачу статыстычных матар'ялаў па пытаньнях працы.

*Увага.* Парушэньні правілаў аб аплаце рабочых і служачых у дзяржаўных установах і прадпрыемствах, прадугледжаныя п. „л“ арт. 2 пастановы НКП і НКЮ за 15 мая 1928 г. № 37 „Пра адказнасьць службовых і іншых асоб за парушэньні заканадаўства ў галіне найманьня, звальненьня і аплаты працы рабочых і служачых, а таксама за невыкананьне пастаноў судовых і канфліктных органаў па працоўных справах“ (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г. № 6), караюцца у адміністрацыйным парадку, калі няма абцяжаючых акалічнасьцяй.

2. Пастанова НКП БССР за 25 лістапада 1926 г. № 14 „Пра парушэньні па тэхніцы бясьпекі і прамысловай санітарыі, за якія наймальнікі могуць прыцягвацца да адказнасьці у адміністрацыйным парадку“ (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г. № 3) мае прыкладны характар і пры вырашэньні пытаньняў аб прыцягненьні наймальнікаў да судовай альбо адміністрацыйнай адказнасьці за парушэньне элемэнтарных правілаў санітарыі і тэхнікі бясьпекі трэба кіравацца, галоўным чынам, акалічнасьцямі і важнасьцю справы.

3. Пратаколы аб парушэньнях (арт. 3 пастановы ЦВК і СНК БССР) складаюцца паводле далучанай да гэтай інструкцыі формы акруговым інспэктарам працы, альбо па яго даручэньні інспэктарамі працы, раённымі ўпаўнаважанымі па працы і сацыяльным страхаваньні, інспэктарамі—кантралёрамі акруговых страхавых кас, якія не пазьней як пра два дні пасьля складаньня пасылаюць пратакол акруговаму інспэктару працы. Акруговыя інспэктары працы на працягу 3 х дзён пасылаюць пастанову аб адміністрацыйным пакараньні ў адпаведную акруговую страхавую касу і копію парушніку.

*Увага.* Пастанова аб адміністрацыйным пакараньні складаецца паводле далучанай да гэтай інструкцыі формы.

4. Парушніку даецца 7 дзён для дабравольнай выплаты штрафу, які ўносіцца у адпаведную акруговую страхавую касу з заяваю паводле далучанай да гэтай інструкцыі формы, альбо ў Дзяржаўны Банк на бягучы рахунак адпаведнай страхавой касы; пасьля выхаду гэтага тэрміну акруговыя страхавыя касы спаганяюць штраф прымусовым парадкам, паводле арт. арт. 17, 18, 21 палажэньня аб спагнаньні падаткаў (З. З. СССР 1925 г. № 70, арт. 518), пастановы СНК БССР за 1 ліпеня

1926 г. „Пра парадак ужываньня арт. 17 палажэньня аб спагнаньні падаткаў“ (З. З. БССР 1926 г., № 26, арт. 97).

Акруговыя страхавыя касы, атрымоўваючы штраф, выдаюць расьпіску паводле далучанай да гэтай інструкцыі формы, а таксама паведамляюць акруговую інспэкцыю працы.

5. Усе сумы, якія спаганяюцца паводле пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 г., залічваюцца ў фонд сацыяльнага страхаваньня і пераводзяцца кожны месяц акруговымі страхавымі касамі на бягучы рахунак Галоўнага Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня.

6. З часу выданьня гэтай інструкцыі касуюцца: а) пастановы НКП БССР за 23 студзеня 1925 г. „Пра законы і загады па пытаньнях працы, за парушэньне якіх наймальнікі могуць прыцягвацца да адказнасьці у адміністрацыйным парадку“ (З. З. БССР 1925 г., № 17 арт. 153); б) растлумачэньне НКП БССР за 24 студзеня 1927 г. № 33 „Пра парадак ужывачьня п. „д“ атр. 148 Код. Зак. аб Працы“ (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г. № 4).

*Дадатак.* Узор working пратаколу, пастановы аб накладаньні пакараньня, заявы і расьпіскі.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

17 верасьня 1928 г.
№ 62.

---

*Дадатак 1*

ПРАТАКОЛ

аб прыцягненьні да адміністрацыйнай адказнасьці за парушэньне чыннага заканадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні.

№ . . . . „ “ . . . . . . . . . 192 . . . г. складзен . . . . . . .
. . . . . . . . (пасада і прозьвішча асобы, што складала пратакол)
аб прыцягненьні да адказнасьці гр. (прозьвішча, імя і імя па бацьку і месца яго жыцьця) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
сацыяльнае становішча . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
маемаснае становішча . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
пасада . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
партыйнайсьць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Член якога прафэсіянальнага саюзу . . . . . . . . . . . .
Выяўлена (паказаць дакладна сутнасьць парушэньня) . . . . . .
Паказаньні парушніка . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(подпіс парушніка)

Паказаньні сьведак . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(подпіс сьведак)

Подпіс асобы, якая складае пратакол . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . Акруговаму Інспэктару Працы.

Падаючы на распараджэньне, лічу патрэбным накласьці адміністрацыйнае пакараньне ў разьмеры . . . . . . . . . . . . . .

(подпіс)

---

*Дадатак 2*

Складаецца ў 3 экзэмплярах, з якіх 1 астаецца ў інспэкцыі працы, 2 пасылаецца акруговай страхавой касе, 3 пасылаецца парушніку.

## ПАСТАНОВА №. . . .

192 . . . г. „ “ . . . . . . . . . Акруговы Інспэктар Працы, разглядзеўшы пратакол № . . . . за . . . . . . . . . . . . . . аб абвінавачнаньні гр . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . які жыве . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . у парушэньні (паказаць сутнасьць парушэньня) . . . . . . . . . . і беручы пад увагу, што факт парушэньня ўстаноўлены складзеным пратаколам, на падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 г. „Пра адказнасьць за нарушэньне чыннага заканадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні“ (З. З, БССР 1928 года, № 26, арт. 257).

Пастанавіў:

гр . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . аштрафаваць на „ “ руб. Копію гэтай пастановы ўручыць парушніку, запрапанаваўшы яму на працягу сямі дзён з моманту атрыманьня пастановы ўнесьці ў Акруговую Страхавую касу, альбо на бягучы рахунак адпаведнай страхавой касы ў Дзяржаўным банку.

Калі штрафная сума ня будзе ўнесена ў тэрмін, то яна спаганяецца прымусовым парадкам, праз накіраваньне спагнаньня на маемасьць парушніка ва ўстаноўленым парадку.

Гэтую пастанову даручаецца выканаць . . . . . . . . Акруговай Страхавой Касе.

*Акруговы Інспэктар Працы*

---

*Дадатак 3*

У . . . . . . . . . . . . . . . . . . Акруговую Страхавую Касу
гр . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
які жыве . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## ЗАЯВА

Падаючы пры гэтым . . . . . . руб. . . . . кап. штрафу, паводле пастановы . . . . . . . . . . . . . Акруговага Інспэктара Працы № . . . . за . . . . . . . . . 192 . . . г., прашу іх прыняць і выдаць расьпіску.

Подпіс:

„ “ . . . . . . . . . 192 . . . г.

*Дадатак 4*

## РАСЬПІСКА

192 . . . г. атрымана ад гр . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . „ “ руб. для выплаты штрафу ў суме „ “ руб. паводле пастановы № . . . . .

*Скарбнік Акруговай Страхавой Касы*

---

## 13. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра ўстанаўленьне стандартаў на памолы жытняй і пшанічнай мукі.

Для зьмены свае пастановы за 21 мая 1928 г. № 43 „пра забарону ўсім млынным прадпрыемствам перапрацоўваць жыта і пшаніцу ў гатунковыя памолы“ (Газэта „Савецкая Беларусь“ за 23 мая 1928 г. № 117), Народны Камісарыят Гандлю БССР, на падставе пастаноў Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 16 мая 1928 г. прат. № 99 і за 13 жніўня 1928 г. прат. № 160, пастанаўляе:

1. Устанавіць для дзяржаўных, каперацыйных і прыватных млынных прадпрыемстваў наступныя стандартныя памолы пры перапрацоўцы жыта і пшаніцы ў муку.

| ГАТУНАК ПАМОЛУ | % выхаду мукі | % зольнасьці | % вільготнасьці |
|---|---|---|---|
| Жытні абойны . . | 96 | 1,92 | 15.5 |
| Пшанічны „ . . | 96 | 1,92 | 15,5 |
| „ аднагатунковы . | 80 | 1,00 | 15,5 |

2. Нормы выхадаў і адходаў пры вырабе паказаных у п. 1 гатункаў мукі ўстанавіць наступныя:

| ГАТУНАК ПАМОЛУ | % вых. мукі) | % вых. вотруб. | % адходаў ад тарара (папяр. ачысткі | % адых. ад абойкі | % распыму | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Жытні абойны . . . . . | 96 | — | 1,5 | 1,5 | 1,0 | 100 |
| Пшанічны . . . . . . | 96 | — | 1,5 | 1,5 | 1,0 | 100 |
| „ аднагатунковы . . | 80 | 15 | 1,5 | 3,0 | 0,5 | 100 |

*Увага.* Калі вырабляецца абойны памол, то збожжа абавязкова павінна праходзіць 2 разы праз абойку.

3. Гэта пастанова ўваходзіць у сілу з моманту апублікаваньня.

4. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на акруговых інспэктароў гандлю, на Дзяржаўную Хлебную Інспэкцыю, сельскія саветы і міліцыю.

5. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Крым. Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

6 верасьня 1928 г.
№ 51

---

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра ўстанаўленьне загатоўчых цэн на льняное валакно на сэзон 1928—29 г.

На падставе п. п. „м“ і „о“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Унутранага Гандлю БССР (З. З. БССР 1924 г., № 25-26, арт. 227) і пастановы Народнага Камісарыяту Замежнага і Унутранага Гандлю СССР за 9 жніўня 1828 г. і каб „стымуляваць

разьвіцьцё ільнярства і павялічыць паступленьне лёну-валакна на рынак за лік скарачэньня асяданьня яго ў сялянскіх гаспадарках, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць на тэрыторыі БССР наступныя загатоўчыя цэны на ільняное валакно ў кап. за кгр.

**Лён-сланец.**

| Група | Гатунак | Ср.№ | Цана |
|---|---|---|---|
| VI | ВФ | 18 | 70 |
| | Ф | 16 | 65 |
| | О | 14 | 58 |
| | I | 12 | 53 |
| | II | 10 | 45 |
| | III | 8 | 39 |
| | IV | 6 | 30 |
| | Бр. | 4 | 23 |

**Лён сланцовы сырэц.**

| Група | Гатунак | Ср. № | Цана сырцу I гр. | II гр. |
|---|---|---|---|---|
| VI | ВО | 16 | 47 | 44 |
| | О | 14 | 42 | 40 |
| | I | 12 | 36 | 33 |
| | II | 10 | 30 | 28 |
| | III | 8 | 24 | 22 |
| | IV | 6 | 17 | 15 |

**Кудзеля**

| Група | Ср. № | Цана |
|---|---|---|
| III | 16 | 50 |
| | 14 | 47 |
| | 12 | 43 |
| | 10 | 39 |
| | 8 | 33 |
| | 6 | 27 |
| | 4 | 22 |

**Лён-мачанец.**

| Група | Гатунак | Ср. № | Цана |
|---|---|---|---|
| III | Ф | 17 | 64 |
| | О | 14 | 58 |
| | I | 12 | 53 |
| | II | 10 | 43 |
| | III | 8 | 37 |
| | IV | 6 | 28 |
| | Бр. | 4 | 22 |

**Лён-мачанец.**

| Група | Гатунак | Ср. № | Цана |
|---|---|---|---|
| IV | Ф | 15 | 61 |
| | О | 13 | 55 |
| | I | 11 | 47 |
| | II | 9 | 40 |
| | III | 7 | 31 |
| | IV | 5 | 24 |
| | Бр. | 3 | 17 |

**Лён сырэц-мачанец**

| Група | Гатунак | Цана |
|---|---|---|
| III | О | 30 |
| | I | 25 |
| | II | 22 |
| | III | 17 |
| | IV | 13 |

**Лён паўтроп. мачанец.**

| Гатунак | Ср. № | Цана |
|---|---|---|
| Ф | 16 | 54 |
| О | 13 | 48 |
| I | 11 | 44 |
| II | 9 | 38 |
| III | 7 | 31 |
| IV | 5 | 23 |
| Бр. | 3 | 17 |

2. У радыусе 10 вёрст, які мяжуецца з сумежнымі БССР губэрнямі РСФСР (Пскоўская і Смаленская), дзе цэны, у параўнаньні з мінулым

годам падвышаны ў меншым разьмеры, устанавіць загатоўчыя цэны на лён-сланец: № 18—68 кап., № 16—64 кап.

3. Новыя цэны ўстаноўлены ф-ка загатоўчы склад, які разьмешчаны у раёне 10-ці вёрставага радыусу, ад станцыі чыгункі, альбо функцыянуючай прыстані, а ў фабрычнай зоне—ад складу пры фабрыцы.

4. У пунктах, якія разьмешчаны за межамі памянёнага 10 вёрставага радыусу, устанавіць дыфэрэнцыяваныя цэны на аснове наступнай скалы скідак з зацьверджаных цэн:

а) у раёне ад 11-ці да 20-ці верставага радыусу робіцца скідка ў разьмеры 60 кап. на цэнтнер;

б) у раёне ад 21 вёрставага да 30-ці вёрставага радыусу робіцца скідка ў разьмеры 90 кап. на цэнтнер;

в) у раёне ад 31 вёрставага да 45 вёрставага радыусу робіцца скідка ў разьмеры 1 р. 20 к. на цэнтнер;

г) у раёне ад 46 вёрставага радыусу да 60 вёрставага радыусу робіцца скідка ў разьмеры 1 р. 50 кап. на цэнтнер.

5. Устаноўленыя гэтаю пастановаю цэны ўведзены ў жыцьцё з 20 жніўня г. г.

6. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Крым. Код. БССР.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

20 верасьня 1928 г.
№ 52.

---

## 15. Пытаньні і адказы.

### Запытаньне Копыльскай Раённай Зямельнай Камісіі.

*Пытаньне 52.* Як трэба ўжываць арт. 26 Зямельнага Кодэксу аб прыцягненьні да крымінальнай адказнасьці землякарыстальнікаў за продаж і перадачу зямлі, бо міліцыя і народны суд адмаўляюцца прыцягваць да адказнасьці ўдзельнікаў такіх ўгод?

*Адказ.* Калі зямельны орган знойдзе, што працоўнымі земляробскімі гаспадаркамі зроблена забароненая законам зямельная ўгода, то ён павінен на падставе арт. 7 Зям. Код. падаць у раённую зямельную камісію іск аб адабраньні ад іх зямлі, якая была аб'ектам угод. Калі па гэтай справе зямельная камісія прызнае ўгоду злоснаю і таму неправадзейнаю, то яна залічвае зямлю ў запасны фонд, спаганяе ў прыбытак дзяржавы атрыманыя прадаўцом па ўмове грошы, як незаконнае збагачэньне, і паведамляе пракурора аб прыцягненьні ўдзельнікаў забароненай угоды да крымінальнай адказнасьці.

Адказ на пытаньне 52 дае Асобная Калегія Вышэйшага Кантролю па Зямельных Справах пры НКЗ БССР (Дадатак да журналу пленарнага пасяджэньня АКВК за 11 чэрвеня 1928 г. № 37).

---

**Час. Адказны Рэдактар Л. Дубавіцкі.**

